# ПРАЦАВІТАЯ СЯМ'Я


*Уладзімір Тарасевіч.*


*Зіна Тарасевіч.*

Нялёгка на вёсцы гадаваць дзяцей, калі селянін мае шмат зямлі і шмат дабытку. Уладзімір Тарасевіч са сваёй жонкай Зінаю, якія жывуць у вёсцы Валілы ў Беластоцкім павеце, не толькі паспяхова ўпраўляюцца з палявымі работамі, але яшчэ выгаспадарылі час, каб пабудаваць вялікі мураваны, сучасны дом. Падчас яго будовы памагалі нават дзеці, якія яшчэ ў школьным узросце. Памагаюць яны і далей пры заканчэнні будовы. Галя і Аня цяпер у шостым класе. Ірэна ад 1 верасня вучыцца ў засадніцай гастранамічнай школе ў Беластоку. Яна мае два дні заняткаў, а 4 дні практыкі ў сталовай. Практыку праходзіць яна ў Гарадку, адкуль і дахаты недалёка.

Апрача дочак, у Тарасевічаў ёсць яшчэ адзінаццацімесячны сын Андрэй. Падчас капання бульбы часта па чарзе адна з дочак звальнялася з заняткаў у школе і няньчыла брата, каб матка з бацькам маглі працаваць на полі. Бульба ўрадзіла добрая, будзе чым карміць свіней, а гадуе ён іх шмат. Клопаты цяпер маюць Тарасевічы з маленькімі парасятамі, якім нешта нездаровіцца і трэба было клікаць ветэрынара.

Варта адзначыць яшчэ і тое, што ў Тарасевічаў дзве дойныя каровы даюць даволі тлустае малако. Заўсёды перакрочвае яно 4 працэнты тлушчу, а часам дасягае да 4,9 працэнта.

— Трэба будаваць хлявы, — гаворыць гэты гаспадар. — Без прасторных, добрых хлявоў цяжка развіваць жывёлагадоўлю. Закончу хату і тады вазьмуся за будову хлявоў.

Нягледзячы на тое, што працы многа, добра жывецца Тарасевічам таму, што паміж імі пануе згода. У вольны ад працы час, пераважна святам, Зіна Тарасевіч любіць зацягнуць задушэўную песню. Яе голас вядомы ў вёсцы. У мінулым годзе старшыня ГРН з Гарадка спецыяльна прыязджаў прасіць Зіну, каб яна выступіла ў мастацкай частцы падчас турнею дзвюх грамад — Гарадка і Міхалова. Зіна там выканала некалькі песень. Найбольш усім запамяталася ўкраінская песня «Вэрховіна, маты моя».

*Тэкст і фота М. Хмялеўскі*

# Клуб для ўсіх

Пачатак на стар. 1

Пры клубе дзейнічае мастацкі калектыў, фільмовая і фатаграфічная секцыі. Самадзейнікі рыхтуюць пастаноўкі на беларускай і польскай мовах, песні і гумарыстычныя сцэнкі, з якімі выступалі ў сябе, у вёсцы Ласінка і іншых мясцовасцях. Мастацкі гурток вядзе Мікалай Якімюк.

Члены фільмовай секцыі дэманструюць у клубе цікавейшыя кінафільмы, а пасля арганізуюць дыскусіі над імі. Кінаапарат для дэманстрацыі кінафільмаў пазычаюць яны ў павятовым праўленні ЗМВ, бо ўласнага пакуль што не маюць. Пані Тамара арганізуе таксама вечарыны казак для дзяцей, выкарыстоўваючы пры гэтым каляровыя дыяфільмы.

У клубе адбываюцца акадэміі, сустрэчы з мясцовымі ветэранамі другой сусветнай вайны, лектарамі, лекцыі на сельскагаспадарчыя тэмы, развітальныя вечарыны з юнакамі, якія ідуць у армію, наладжваюцца выстаўкі карцін мастакоў. У клуб прыходзяць усе: моладзь і дарослыя, а нават дзеці. Смела тады можна сказаць, што навасадскі клуб «Рух» з'яўляецца сапраўдным цэнтрам культуры.

У клубе адбываюцца плебісцыты на 5 найлепшых спартсменаў з мясцовага гуртка ЛЗС, маладзёжныя сходы і г.д. Зімою навасадская моладзь арганізуе супольна з моладдзю з гайнаўскіх прадпрыемстваў кулікі па Белавежскай пушчы. Юнакі і дзяўчаты з Навасадаў дапамагалі рамантаваць свой клуб, а таксама пабудавалі пры ім сметнік.

Арганізатарамі амаль усіх маладзёжных пачынанняў з'яўляюцца перш за ўсё пані Тамара, наша субяседніца, і старшыня мясцовага гуртка ЗМВ Мікалай Якімюк.

У гэтым годзе навасадскі клуб удзельнічае ў пастаянным конкурсе на найлепшы клуб «Рух» у сваім павеце, а таксама і ў ваяводстве. Жадаем яму поспехаў.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкага*

# І НАВОШТА ГЭТА?

Пачатак на стар. 1

Што рабіць, як гаварыць і пісаць, каб менш было прыкрых расставанняў, каб мір панаваў у сем'ях?! Мне асабіста здаецца, што замала мы пагарджаем такімі сямейнымі разбойнікамі, што замала іх кляймуем, не пішам і не гаворым аб іх па прозвішчы. Найчасцей упамінаюцца ініцыялы. Чаму? Каб ім не зрабіць прыкрасці. Яны ж маюць развод, усё па праву...

— У апошніх гадах, недзе ад 1965 года разводаў значна менш. На працягу года бывае іх да 20-ці, — сцвярджае многагадовы кіраўнік Бюро цывільнага стану ў Бельску Ядвіга Якубюк. У 1965 годзе быў уведзены закон аб месячным чаканні пасля заяўкі аб шлюбе. Гэты закон у нейкай меры ўстрымлівае ад неабдуманых рашэнняў.

У Бюро цывільнага стану ў Бельску ўваходзяць, апрача горада Бельска, тры ГРН — Лубін Касцельны, Пілікі і Пасынкі. На 204 пары, падаўшыя заявы на шлюб ў 1971 годзе, узялі яго 185 пар. 19 пар на шлюб не з'явілася. У гэтым годзе да 6 кастрычніка было заявак на шлюб 176, а ўзяло шлюб 157 пар. Адмовілася ад шлюбаў таксама 19 пар. Бюро цывільнага стану ў Гарадку ў 1971 годзе дало 49 шлюбаў. Адмовілася ад шлюбу 5 пар. У Крынках на 33 заявы не ўзялі шлюбу 3 пары.

Такім чынам, прыблізна 10 пар на 100 адмовілася ад думкі, каб шлюбам спалучыць сваё жыццё. Вядома, лепш развітацца цяпер, чым тады, калі ёсць ужо дзеці і калі менавіта дзеці бываюць найбольш пакрыўджаныя. 30 дзён чакання, 30 дзён роздуму з'яўляюцца нейкай карыснай прафілактыкай ад сямейнага няшчасця. Прычыны адмовы ад шлюбу бываюць розныя. Найчасцей гэта лёгкадумнасць. Жаніх або дзяўчына, падаўшы заяву на шлюб, пачынаюць толькі тады сур'ёзна аналізаваць свае пачуцці. Некаторыя за гэты час прыходзяць да вываду, што адно аднаму не падыходзіць, што ім, як кажуць, не хопіць пораху, каб згодна і добра пражыць разам жыццё.

Бывае яшчэ і так, што разыходзяцца па прычыне пасагу. На жаль, ёсць яшчэ і такія факты. Жаніх патрабуе тысячаў ад бацькоў сваёй дзяўчыны. Або, як гэта было нядаўна ў Бельску, паставіў ён ёй і бацькам ультыматум: «Калі не фінансуеце ўсіх вясельных выдаткаў, звязаных з шыкарным прыёмам маіх сваякоў, шлюбу не будзе!» І не было. Значыць, і кахання не было.

Памалу ў нас паяўляецца новая праблема. Зарана жэняцца і выходзяць замуж. Зарана мусяць жаніцца. Згодна з абавязваючым у нашай краіне законам, шлюб можна атрымаць толькі тады, калі дзяўчыне споўніцца 18 год, а жаніху — 21. Але цяпер значны працэнт шлюбаў адбываецца перад праўным паўналеццем. Па дазволу суда. Прычынай такіх шлюбаў з'яўляецца пераважна цяжарнасць дзяўчыны. Гайнаўскае Бюро цывільнага стану ў год дае на аснове дазволу суда амаль 15 працэнтаў шлюбаў. У Бельску ў год адбываецца каля 20 такіх шлюбаў, у Гарадку і Крынках да 6 кастрычніка г.г. такіх шлюбаў адбылося па 5. Калі яшчэ такія маладыя людзі жэняцца, кахаючыся, то вялікай бяды няма. Горш, калі шлюб бяруць з прымусу.

*Міхась Хмялеўскі*

# БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Рылько Алесь, Выбранае, 1969, стар. 288, цана 6 зл. 10 гр.

Том прозы — апавяданняў і навелаў — памёршага ў 1969 годзе беларускага пісьменніка. У кнігу ўвайшлі лепшыя творы, што былі напісаны на працягу яго творчага жыцця.

Рэкамендуем усім любіцелям беларускай прозы.

Гаўрусёў Сцяпан, Кляновыя лісты, 1971, стар. 224, цана 8 зл. 10 гр.

Выбранае з дагэтуль выдадзеных зборнікаў твораў сучаснага беларускага паэта і перакладчыка сярэдняга пакалення.

Гэта том добрай паэзіі, грамадскай і поўнай лірызму, рэкамендуем усім чытачам.

Гаўрылкін Леанід, Пакінутая на досвітку, 1970, стар. 200, цана 3 зл. 20 гр.

У кнігу ўвайшлі дзве аповесці «Летняя ночка» і «Пакінутая на досвітку». Іх героі — нашы сучаснікі, маладыя людзі беларускага горада і вёскі. Душэўны свет узаемаадносін, погляды на жыццё грамадзян сучаснай Беларусі — асноўны змест гэтых займальных твораў. Іх аўтар — літаратар і работнік тэлестудыі ў Гомелі.

Рэкамендуем усім, хто цікавіцца жыццём беларускага савецкага сучасніка.

Вольскі Артур, Выбранае, 1971, стар. 65, цана 3 зл. 40 гр.

Зборнік складаюць вершы, паэмы, сцэнкі для школьнай самадзейнасці вядомага ў Беларусі пісьменніка твораў для дзяцей і дырэктара Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача ў Мінску. Ілюстрацыі мастакоў С. Кавалёва і У. Рудакова.

Гэтая кніга павінна абавязкова трапіць да кожнага настаўніка беларускай мовы і ў кожную школьную бібліятэку.

Кнігарня імпартных выданняў у Беластоку ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем з далучэннем рахунку. Запатрабаванні кіруйце па адрасу: «Dom Książki», Białystok, ul. Kilińskiego 10.

# ПЛАНТАТАРЫ

Як у многіх вёсках у Беластоцкім павеце, таксама і ў Ляшуках гаспадары маюць вялікія даходы з вырошчвання трускалак. Плантацыі трускалак у Анны Аляксейчук, Антона Рагуцкага, Ірэны Карольчук і Язэпа Карольчука маюць па 1 га. Язэп Рафаловіч у гэтым годзе меў трускалкі на 0,70 га. Ён атрымаў за свае ягады 30 тыс. зл., а яго аднавяскоўцы значна больш. Пятро Рагуцкі апрача вырошчвання трускалак займаецца яшчэ агародніцтвам. Ён са сваіх шклярняў атрымоўвае раннія агуркі і памідоры, што дае яму яшчэ большыя даходы, як трускалкі. (мх)

# Свінагадоўцы

Язэп Бароўскі і Браніслаў Яблонскі (Беластоцкі павет) вядомыя ў ваколіцы як добрыя свінагадоўцы. Па 10, а нават па 15 штук кормнікаў у год прадаюць яны дзяржаве. Вось такіх гаспадароў каб як найбольш у нашых вёсках.

(мх)

БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

# ПЕРЫЯД XIX СТАГОДДЗЯ

КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ — ЧАСТКА IV

Публіцыстычна-літаратурная спадчына Каліноўскага гэта: сем нумараў газеты «Мужыцкая праўда», «Пісьмо Яські гаспадара з-пад Вільні», «Пісьмо з-пад шубеніцы». У «Пісьме з-пад шубеніцы» уплецены верш без загалоўка, які пачынаецца ад слоў «Марыська чорнабрэва».

«Мужыцкая праўда» пачала выходзіць, праўдападобна, у палове 1862 года ў Беластоку. Ужо з загалоўка відаць, што была яна прызначана для сялянскага насельніцтва. Аўтарам усіх сямі нумараў газеты была, як мяркуюць, адна і тая ж самая асоба. Відаць гэта не толькі з подпісу «Яська», але з падобнага ва ўсіх нумарах стылю. Мова газеты амаль цалкам супадае з беларускай гаворкай з ваколіц Ялоўкі і Свіслачы. Гэта якраз пераконвае нас у тым, што яе аўтарам быў Каліноўскі. Адсутнасць выпрацаваных форм літаратурнай мовы прымушала Каліноўскага да рэдкага карыстання з польскіх, найчасцей збеларушчаных слоў. Да такіх слоў належаць: ронд (урад), паказьна (прыкметна), патэнпене (асуджэнне), мэнкі (мукі).

Час ад часу карыстаўся Каліноўскі польскімі насавымі «ą» і «ę». Шрыфт усіх выданняў Каліноўскага лацінскі. «Мужыцкая праўда» сваёй формай нагадвае хутчэй адозву, чым газету. Аднак аднолькавы ва ўсіх нумарах загаловак, нумарацыя і цана набліжаюць яе да газеты. Зрэшты, і сам Каліноўскі лічыў яе не адозвай, але газетай. Нягледзячы на тое, што «Мужыцкая праўда» не змяшчаецца ў сённяшнім разуменні тэрміна «газета», то ўсё ж такі лічым яе першай газетай у гісторыі Беларусі.

Прыступаючы да выдання газеты, Каліноўскі стараўся стварыць спрыяльную атмасферу для яе распаўсюджвання ў беларускім сялянскім асяроддзі. З мэтай навязання цеснага ідэйнага кантакту з вясковым чытачом Каліноўскі досыць часта падкрэсліваў сваё сялянскае паходжанне. Хацеў ён даказаць гэтым чытачу, што паміж ім і аўтарам артыкулаў у газеце няма сацыяльнай розніцы. Гэтае пераконванне сялянства ў тым, што выдаўцы газеты з'яўляюцца людзьмі сялянскага паходжання, мае глыбокі сэнс. Сяляне адносіліся недаверліва, а нават варожа да друкаванага слова. Часта было яно прадуктам людзей, паходзячых з варожых селяніну класаў. Вось якраз па гэтай прычыне Каліноўскі ў многіх нумарах «Мужыцкай праўды» падкрэслівае сваё сялянскае паходжанне, сваю класавую адзінакроўнасць з селянінам: «Мы, мужыкі, браты вашыя, мы будзем гаварыць цэлую праўду, толькі слухайце нас», «Гэту мужыцкую праўду напісаў і зноў пісаць будзе Яська гаспадар з-пад Вільні».

Адначасова Каліноўскі стараўся ўзняць разумовыя здольнасці селяніна, падкрэсліць сялянскі прэсціж. «Мінула ўжэ тое, — пісаў Каліноўскі, — калі здавалася ўсім, што мужыцкая рука здаецца толькі да сахі, цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаць і то пісаць такую праўду, справядлівую, як Бог на небі». Зразумела, што дэкларацыя Каліноўскага аб сваёй сялянскасці, аб тым, што рукі сялянскія здольны выдаваць газету, не памаглі б яму, калі б у «Мужыцкай праўдзе» адсутнічаў сапраўдны сялянскі рэвалюцыйны дух, калі б у стылістыцы не дамінавалі рысы, характэрныя для сялянскай гутаркі. Паслухайма, колькі прастаты, колькі шчырасці, колькі лагічнасці заключаюць у сабе простыя словы Каліноўскага «...Кожны па-своему талкуе, на сваю сторану цягне. Цар кажэ, што ён добрэ нам думае, а паны кажуць, што яны добрэ думаюць нам зрабіць, а мужык бедны ад іх добраці як прападаў, так і прападае...», або «Мужыкі панскія і казённыя не павінны плаціць ані чыншу панам, ані аброку ў казну — бо гэта зямля да нас належыць».

Не можа быць ніякага сумнення, што такая аргументацыя і такія заклікі, а таксама простыя і пераканаўчыя загаловак газеты трапялі да свядомасці селяніна, пераконвалі яго, прымушалі беларуса верыць у шчырасць выдаўцы «Мужыцкай праўды». Прапаганда Каліноўскага моцна ўрасла сваімі карэннямі ў сялянскую глебу. Закранала найбольш істотныя праблемы сялянскага жыцця. Клікала на светлы шлях вызвалення. Селянін бачыў у Каліноўскім свайго брата, верыў яму і ішоў за яго словам.

# НАРОДНЫ ПАЭТ БЕЛАРУСІ

III)

Пасля пераможнага заканчэння Вялікай Айчыннай вайны Якуб Колас прысвячае свае творы тэме мірнай стваральнай працы народаў Савецкага Саюза. Паэта цешаць поспехі роднай Беларусі ў справе аднаўлення і развіцця яе народнай гаспадаркі ў пасляваенны перыяд. — Гэтыя поспехі, — кажа Я. Колас, — былі б немагчымы, калі б не было вялікай дружбы ўсіх народаў, насяляючых Савецкі Саюз. Менавіта ўсепераможная сіла дружбы савецкіх народаў, узнікшая ў выніку правільнай ленінскай нацыянальнай палітыкі, сіла ідэй Камуністычнай партыі, падкрэслівае пісьменнік, дапамагла беларускаму народу аднавіць у надзвычай кароткі тэрмін разбураную ў гады вайны гаспадарку рэспублікі, стварыць новыя гіганты індустрыі, рушыць наперад сямімільнымі крокамі развіццё прамысловасці, сельскай гаспадаркі, навукі і культуры.

Апяваючы мірную працу свайго народа, яго няспыннае імкненне наперад да камунізму, Якуб Колас не забываўся і аб тым, што над светам збіраюцца цёмныя хмары вайны, што выношваюцца новыя планы закабалення і знішчэння цэлых народаў і дзяржаў. І ён, як паэт і грамадзянін, як грамадскі і дзяржаўны дзеяч, у сваіх мастацкіх творах і публіцыстычных выступленнях заклікае ўсе народы свету без розніцы рас і нацыянальнасцей, палітычных і рэлігійных перакананняў, аб'яднацца ў магутны лагер змагароў за мір і абараніць святую справу міру на нашай планеце.

Уся паслякастрычніцкая творчасць Якуба Коласа прасякнута камуністычнай партыйнасцю, палымяным савецкім патрыятызмам. У шматлікіх паэтычных і празаічных творах ён услаўляе загартаваную ў баях Камуністычную партыю Савецкага Саюза, складае гімны самым смелым і мужным людзям нашай эпохі — камуністам. Нельга без хвалявання чытаць цудоўныя радкі з паэмы «Рыбакова хата», у якіх мастак слова ў стылі народна-паэтычных былін, карыстаючыся фальклорнай алегарычнай формай паралелізмаў, выказаў глыбокую ідэю адналітнасці Камуністычнай партыі і працоўных мас, паказаў сілу і непераможнасць камуністаў, як вынік іх цеснай і непарыўнай сувязі з народам.

У дзень свайго 70-годдзя, у 1952 годзе, Якуб Колас, адказваючы на шматлікія прывітанні і віншаванні, сказаў: «Сваё жыццё і сваю дзейнасць я назаўсёды звязаў з жыццём і дзейнасцю вялікай партыі, а гэтым самым і з народам, таму што партыя і народ — неподзельныя паняцці. Дарога партыі — мая дарога, і з гэтай дарогі я не зыйду ніколі».

Сваю літаратурна-творчую дзейнасць Якуб Колас заўсёды спалучаў з актыўнай навуковай, грамадскай і дзяржаўнай дзейнасцю. З'яўляючыся доктарам філалагічных навук, акадэмікам Беларускай Акадэміі навук і нязменным яе віцэ-прэзідэнтам з 1929 года, ён праводзіў велізарную работу ў галіне развіцця беларускай навукі і культуры.

Жыццёвы і творчы шлях Якуба Коласа — гэта слаўны шлях выдатнага пісьменніка-камуніста, літаратурная, навуковая і грамадская дзейнасць якога з'яўляецца яскравым прыкладам самаадданага служэння Радзіме, свайму народу, прагрэсіўнаму чалавецтву.

*Антон Семяновіч, доктар філалагічных навук*



*Якуб Колас з Уладзіславам Бранеўскім. Мінск, 1955 г.*

# ФАЛЬКЛОР

*СЯМЕЙНАЯ*

ПА-СА-ДЗІ-ЛА Я КВА-СО-ЛЕНЬ-КУ СА-МА ЙДУ ДА — ДО-МУ, А МОЙ МІ-ЛЫ-ЧОРНАБРЫ-

П'Е Ў КАР-ЧМЕ З КУ-МО-Ю. А МОЙ МІ-ЛЫ-ЧОР-НА-БРЫ-ВЫ П'Е Ў КАР-ЧМЕ З КУ-МО-Ю.

*Пасадзіла я квасоленьку, сама йду дадому,*
*А мой мілы-чорнабрывы п'е ў карчме з кумою.*
*А мой мілы-чорнабрывы п'е ў карчме з кумою.*
*— Ой, ні добра, ні харашэ, мой міленькі робіш —*
*Як дзень, як ноч п'янюсенькі і з кумою ходзіш.*
*Як дзень, як ноч п'янюсенькі і з кумою ходзіш.*
*Годзі, мілы-чорнабрывы, і з кумою піці,*
*Ой, хадземо дадомэньку вэчэру варыці.*
*Ой, хадземо дадомэньку вэчэру варыці.*
*— Мая міла-чорнабрыва, яшчэ вазьму кварту —*
*Кума мая харошая яшчэ болей варта.*
*Кума мая харошая яшчэ болей варта.*
*Пад вішняю-чарэшняю палягалі спаці.*
*— Мая ж міла-чорнабрыва, ні дай нікому знаці.*
*Мая ж міла-чорнабрыва, ні дай нікому знаці.*
*Я ж маладая, як ягада, тагды не ўтрывала:*
*І, вышэўшы на гуліцу, усем людзям сказала.*
*І, вышэўшы на гуліцу, усем людзям сказала.*
*— Там, за садом за гародом, шчэ й за перэлазом,*
*Палягалі кум з кумою ды й абое разом.*
*Палягалі кум з кумою ды й абое разом.*
*— Ой, за што ж тэбэ, мой міленькі, разом і скавалі?*
*— То за тое, мая міла, што з кумою спалі.*
*То за тое, мая міла, што з кумою спалі.*

Ад Нікіфара Бандарука, 1888 года нараджэння, вёска Міхнаўка, Гайнаўскага павету, запісаў 30 жніўня 1972 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіў Эдуард Гойлік.

# У школе ў Валілах — станцыі

сарака вучняў пачатковай школы ў Валілах-станцыі Беластоцкага павету прысвяціла пару дзён на капанне бульбы ў ПГР Валілы. Зарабілі яны некалькі тысяч злотых, якія выкарыстоўваюць на турысцкія экскурсіі. Дагэтуль ездзілі яны ў Варшаву, Белавежу і на Мазоўша. Апрача таго, вучні самі купілі і пасадзілі ў школьным агародчыку дзесяткі кусцікаў ружы.

* ✲ *

Цікавы куток разьбы, выкананай вучнямі, знаходзіцца ў адным з класаў валілаўскай школы. Ёсць тут і людскія постаці, і багата ўпрыгожаныя скрыначкі і сундучкі, а таксама ўласнаручна выкананыя вучнямі на ўроках практычных заняткаў свечнікі. Найбольш рэзьбаў пакінулі школе на памяць яе былыя вучні Леан Тарасевіч і Станіслаў Ліжэўскі.

*Тэкст і фота (ЦЯ)*



*Вучнёўская разьба.*



*Свечнікі, зробленыя валілаўскімі вучнямі.*

ПАСЛЯ МЕСЯЦА АШЧАДНАСЦІ

# Для ашчадных свет адкрыты

Прайшоў кастрычнік, які ў нас кожны год адзначаецца як месяц ашчаднасці. Як заўсёды, ён быў урачыста адкрыты пленарным пасяджэннем ваяводскага грамадскага камітэта па справах пашырэння ашчаднасці. З'ехаліся старшыні прэзідыумаў павятовых радаў і загадчыкі ўстаноў, якія па свайму характару службова займаюцца распаўсюджваннем ашчаднасці. Заслухалі выступленне намесніка старшыні Прэзідыума ВРН, пасядзелі, папыхкалі папяросным дымам ды раз'ехаліся дамоў. Ніхто слаўцом не адазваўся. Ці ж гаспадары паветаў сапраўды не мелі аб чым гаварыць у такой важнай у гаспадарцы справе? Цяжка было паверыць.

То ж паслядоўнае ажыццяўленне новай палітыкі накіравана на павелічэнне заможнасці насельніцтва. На працягу 1971 года грашовыя прыбыткі грамадзян Беластоцкага ваяводства павысіліся амаль на 14 працэнтаў. Пералічыўшы гэтыя працэнты на залатоўкі, атрымаем суму 2 мільярды 300 мільёнаў злотых. У гэтым годзе наглядаецца яшчэ большае павелічэнне грашовых прыбыткаў насельніцтва. Усё паказвае на тое, што яго ўзровень наблізіцца да 15 працэнтаў, што на гэты раз складзе суму на паўмільярда вышэйшую ад папярэдняй.

Што ж, прыемна сцвердзіць, што мы ўсё ж такі багацеем. Праўда, апярэджваюць нас жыхары многіх іншых ваяводстваў, але і мы не стаім на месцы. Вось толькі ў выніку адмены абавязковых паставак збожжа і мяса на карысць сялян Беласточчыны ў гэтым толькі годзе пяройдзе звыш 7 мільярдаў злотых. Сума такая вялікая, што цяжка яе ўявіць. А гэта ж не адзіная крыніца прыбытку ў нашых сялян. Яны пачалі прадаваць значна больш дзяржаве збожжа і жывёлы. Для прыкладу: за першае паўгоддзе гэтага года даставілі яны на скупачныя пункты амаль у паўтара раза больш свіней, чым за той жа час мінулага года. Пастаўка малака павялічылася на 26 працэнтаў, а збожжа на 19 працэнтаў.

На ашчадных кніжках у Беластоцкім ваяводстве ўжо цяпер накоплена звыш 600 мільёнаў злотых, а тэмп павелічэння грашовых запасаў дае аснову мер-

Як штогод, так і ў гэтым годзе каля

каваць, што ўжо неўзабаве жыхары Беласточчыны на сваіх ашчадных кніжках накопяць амаль мільярд злотых. Больш як кожны другі статыстычны грамадзянін ваяводства з'яўляецца ў нас уласнікам ашчаднай кніжкі. На аднаго жыхара Беластоцкага ваяводства прыпадае цяпер амаль 3 тысячы злотых ашчаднасці. Добрымі вынікамі ў гэтай галіне могуць пахваліцца жыхары Бельскага павету. У іх на аднаго чалавека прыпадае ў сярэднім 3142 злотых.

На што перш за ўсё прызначаюць людзі гэтыя грошы? Як гэта ўплывае на ўзровень іх жыцця, на характар пакупак? Ці хапае тавараў для пакрыцця гэтых дадатковых мільёнаў?

На многія з гэтых пытанняў маглі б даць адказы старшыні прэзідыумаў павятовых радаў.

Ашчаднасці дазваляюць весці больш планавую гаспадарку. Грошы толькі тады маюць сваю вартасць, калі яны знаходзяцца ў пастаянным абароце. ПКО і ашчадна-пазыкавыя спулдзельні круглы год не толькі прымаюць грошы ад людзей, але таксама прызначаюць іх на пазыкі. Намеснік старшыні Прэзідыума ВРН у час гэтага ж пасяджэння гаварыў:

— Накопленыя грамадзянамі ашчаднасці ў значнай колькасці прызначаюцца на пазыкі для насельніцтва, якія ў спалучэнні з уласнымі капіталаўкладаннямі дазваляюць паасобным грамадзянам будаваць дамы, развіваць вясковыя гаспадаркі, рамесныя майстэрні, пакупку дарагога хатняга абсталявання, аўтамабіляў...

Калі гутарка пра аўтамабілі, дык варта ведаць, што на іх пакупку жыхары Беласточчыны ўжо цяпер гатовы выдаць звыш 270 мільёнаў злотых, што дагэтуль у выніку розыгрышаў кніжак ПКО, прэміяваных аўтамабілямі, нашым землякам прыпала іх ужо аж 455 штук.

У гэтым годзе ўладам ваяводства ўдалося атрымаць дадаткова яшчэ 20 мільярдаў злотых, якія будуць прызначаны на пазыкі для тых, хто захоча будаваць сабе аднасямейныя дамы. Упершыню ПКО зможа забяспечыць пазыкамі ўсіх патрабуючых.

Месяц ашчаднасці закончыўся, але не павінна быць канца клопату пра тое, каб раслі і павялічваліся нашы ашчаднасці. Гэты клопат неабходна праяўляць круглы год, бо толькі для ашчадных свет адкрыты. (вр)

*З савецкага гумару*

## ЭЛЬВІРА

Увесь наш факультэт трацiў розум ад Эльвiры. Але я быў у ёй закаханы наймацней. На другiм курсе я вырашыў, што чакаць болей нельга. Я прызнаўся ў каханнi.

— Ты павiнна стаць маёй жонкай! — сказаў я на заканчэнне свайго гарачага маналога. — Вось табе маё сэрца, вось табе мая рука!

— Тваё сэрца i твая рука — гэта добра, — задуменна сказала яна. — Але дзе мы будзем жыць?

— Эльвiрачка, у мяне ж ёсць брат-кандыдат! — радасна крыкнуў я. — Ён купiць нам кааператыўную кватэру.

Вочы Эльвiры павесялелi.

— А за што будзем жыць? — пацiкавiлася яна.

— Як за што! У майго брата-кандыдата грошай куры не клююць. Мы будзем вучыцца, ён — працаваць.

— Кожная шануючая сябе сям'я як мiнiмум павiнна мець тэлевiзар, радыёпрыёмнiк i магнетафон.

— Няма нiчога прасцей! У майго брата-кандыдата ёсць тэлевiзар, радыёпрыёмнiк i магнетафон. Ён падорыць iх нам на вяселле. А сабе купiць новыя. Ён падорыць нам яшчэ i свой матаролер, а сабе купiць аўтамабiль.

Вочы ў Эльвiры сталi такiя вясёлыя, што ў iх заскакалi маленькiя чорцiкi.

— На нашым вяселлi будзе многа народу? — спытала яна.

— Вядома! Мой брат-кандыдат закацiць такi баль, якi нiкому нават не снiўся.

Неўзабаве адбылося вяселле. Баль на самай справе ўдаўся на славу. Мяне ўсе вiншавалi з сямейным святам i крычалi: «Горка»! Я таксама крычаў: «Горка!» — i глядзеў, як цалуюцца маладажоны: Эльвiра i мой брат-кандыдат.

*Уладзiмiр Туманаў*



# НІЎКА



## МЫШ ПАД ВЕНІКАМ

Было ўвесь час у хаце шчасце,
Ды не абыдзеш часам зло:
Мыш нечакана завялася,
I тут пайшло!
Цягала цукар, крупы, сала,
I не знайсцi нiдзе нары.
Абоi ўсе пашкумятала —
Ну хоць памры!
А кот з лянiвай быў пароды,
Была адна марока з iм:
Еў шмат ён ды драмаў заўсёды
У кутку сваiм.
I мыш пад венiкам сядзела
Ды насмiхалася з яго;
З-пад носу ўсё цягала смела
У ката таго.
Гаспадару мець давялося
I клопат, i двайны расход,
I венiк ён тады са злосцi
Пусцiў у ход...
Хвастаў ката ён злева, справа,
Што пераводзiў харч дарма.
I мыш, спужаўшыся расправы,
Уцякла сама...

Яшчэ такiх выпадкаў многа,
I тут патрэбна зразумець,
Што чым трымаць ката такога,
Лепш добры венiк мець!

*Мiкола Вяршынiн*

### УПЭЎНІЛАСЯ

Дзве сяброўкi:
— Я выходжу замуж, — прызнала малодшая, — але мяне вельмi непакоiць тое, што сваякi жанiха ненавiдзяць мяне.

— Адкуль ты ведаеш? — перапытала яе старэйшая. — Сама ў гэтым упэўнiлася?

— Ого, яшчэ як! Яго жонка ўтапiла б мяне, калi б даведалася аб намеры мужа.

### ЧАМУ Ж НЕ ПАВЕРЫЦЬ?

Рыбак расказвае свайму сябру, паляўнiчаму:
— Учора ведаеш, я во-о такога шчупака злавiў.
Паляўнiчы ўсмiхаецца.
— Ты што, хiба не верыш? — раззлаваўся рыбак.
— Веру, чаму ж не паверыць? Я i сам расказаць люблю.

### ПЫТАННЕ

— Ты ведаеш, я ўчора прачытаў у газеце, што глыбокае дыханне забiвае мiкробы.
— Можа быць. Але як прымусiць iх дыхаць глыбока?

### Талаваломка

Якую трасу павiнен выбраць вадзiцель аўтамабiля, каб па ўсiх дарогах лабiрынта праехаць толькi па аднаму разу?



Адказ на заданне з папярэдняга нумара:



### ШТО ЗА БЯДА

Баба дзеда кармiла адным гарохам. А сама цiшком пеўня зварыць, наесца дый прыгаворвае:
— Што за бяда, што п'ецца вада?
I гэтак кожнага разу: дзеду гарох, а сабе — пеўня.
Угледзеў аднойчы дзед бабiны хiтрыкi, падцэлiў, калi яе не было дома. З'еў пеўня ды i на печ падаўся.
Вярнулася баба, даела моўчкi таго пеўня, выцерла губы, ды зноў кажа:
— Ах, што за бяда, што п'ецца вада?
А дзед з печы:
— Ды што там бяда... Вось я з'еў толькi поўбяды i то напiўся вады.

### ШТО РАБІЦЬ

— Мая жонка прыносiць мне столькi непрыемнасцей! Уявi сабе, завяла прывычку — класцiся кожны дзень у тры гадзiны ночы.
— Немагчыма!.. А што яна робiць да гэтага часу?
— Чакае мяне.



### НЕ ДАЛІ АДГУЛ

Настаўнiца: — Мiша, чаму ты ўчора не застаўся пасля ўрокаў?
— А я больш заставацца не буду.
— Чаму?
— Татку, калi ён застаецца пасля работы, адгул даюць, а вы мне не даеце.

### ВЫМУШАНАЯ СІТУАЦЫЯ

П'яны вадзiцель прабуе сесцi за руль.
Рэгулiроўшчык руху падышоў да яго i гаворыць:
— У такiм стане вам нельга ехаць!
— Мне якраз неабходна ехаць. Вы ж бачыце, што я не магу iсцi.







### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Любы Мiцуры i Аляксандра Грышына з Гродна змяшчаем

## Што за хлопец, што за дзяўчына

(Беларуская народная песня)




Што за хлопец, што за дзяўчына
У поле пад вечар выходзяць
I, прытулiўшысь, там каля млына,
Ночкi спакойна праводзяць. (2)

Яна ўцякае з бацькавай хаты,
Хлопец з зялёнага гаю.
Дзяўчына з вёскi, Гэляй завецца,
Хлопца, як завуць — не знаю. (2)

Ён ёй штосьцi шэпча, быццам кахае,
Нiбы любую дзяўчыну,
I кожны раз ёй усё паўтарае:
— Мiла, не плач, не пакiну! (2)

Мiлая Гэля, мая кахана,
Ты мне за ўсё даражэйша,
Тут каля млына сон нас не зморыць,
Ночка для нас дня яснейша. (2)

Дзяўчына рада, жмецца, цалуе
I пры iм усё забывае:
Дома нiколi ўжо не начуе,
Дома спакою не мае... (2)

Месяц за хмары ўжо захiлiўся,
Зоркi усе пахавалiсь.
Толькi ля млына свет запалiўся —
Вочы дзяўчыны смяялiсь. (2)

### НЕ АДДАЎ ПАЗЫКІ

Два габраўцы сустрэлi на вулiцы вядомага багацея.
— Бачыш яго? — сказаў адзiн. — Не аддаў мне некалькi мiльёнаў леваў.
— Калi ў цябе былi такiя грошы яму пазычаць?
— Ён адмовiўся выдаць сваю дачку за мяне...



### СЛАНЫ РАЗ'ЮШЫЛІСЯ

Статак сланоў трымае ў пастаянным жаху звыш 20.000 жыхароў вёсак, размешчаных паблiзу леса Чандна, што за 30 кiламетраў ад Бхубанешвара (галоўнага горада ўсходнеiндыйскага штата Арыса). Нярэдка сланы робяць апусташальныя набегi на пасяленнi, якiя знаходзяцца блiзка, знiшчаючы ўсё на сваiм шляху. Яны разбураюць хiжыны, забiваюць iх жыхароў, знiшчаюць ураджай на палях i агародах. Ужо 24 чалавекi сталi ахвярамi раз'юшаных жывёлiн.

Набегi сланоў не спынiлiся i пасля таго, як у вынiку аблавы, наладжанай добра ўзброенымi атрадамi палiцыi, быў забiты важак статка.

### ЗНАЁМЫЯ ЎСЕ ТВАРЫ

Жан Лув'е, французскi студэнт, адправiўся ў падарожжа з адзiнай мэтай — праверыць, цi падобны ён на сваё фота. Справа ў тым, што ў пашпарце яго была наклеена фатаграфiя яго любiмага спанiеля. Жан перасёк гранiцы пяцi краiн, нiхто не патурбаваў. Толькi швейцарскi таможны чыноўнiк, заглянуўшы ў пашпарт, буркнуў: «Зноў гэта доўгавалосая моладзь!»

### ТЭАТР ПА ПТАЛЕМЕЮ

У большасцi тэатраў свету гледачы сядзяць нерухома, а круцiцца сцэна. Пры гэтым рабочым сцэны даводзiцца бегаць, як на пажары, каб падрыхтаваць дэкарацыi да чарговай дзеi. «А цi нельга паварочваць глядзельную залу? — падумалi архiтэктары ў фiнскiм горадзе Тамперэ. Падумалi — i зрабiлi. Цяпер рабочыя сцэны могуць рыхтаваць дэкарацыi, не спяшаючыся, з сапраўднай фiнскай акуратнасцю i грунтоўнасцю.




Увайшоў у навуку праз чорны ўваход i вытлумачыў, што ў яго не было iншага выхаду.